Цана асобнага нумару 20 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 11 (158) | Вільня, Нядзеля 29 Студзеня 1928 г. | Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!
Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1. (Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу. Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта. — ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА: На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**18** **ВЫБАРШЧЫКІ-БЕЛАРУСЫ, гэта ваш адзіны сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат. 4 і 11 Сакавіка, усе як адзін, ідзеце да абвадовых урнаў і аддайце за гэты сьпісак свой голас.**

## 18

Пяць гадоў таму назад, нацыянальныя меншасьці ў Польшчы пры выбарах у Сойм і Сэнат галасавалі за сьпісак Блёку. З гэтага сьпіску больш сьвєдамыя беларускія масы сваімі галасамі правялі ў Сойм і Сэнат 14 сваіх прадстаўнікоў, якія сваею працаю ў Сойме і за Соймам далі доказы сваей вернай і адданай службы на карысьць Беларускага Народу. Сёлета, тыя самыя нацыянальныя меншасьці: Беларусы, Украінцы, Жыды і Немцы, таксама заключылі выбарны блёк, падалі супольны дзяржаўны сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат і гэты сьпісак у чарзе падачы атрымаў нумар 18.

Апрача дзяржаўнага сьпіску ўва ўсіх беларускіх 9 вокругах будуць выстаўлены акружныя сьпіскі кандыдатаў. Беларускіх кандыдатаў на гэтых сьпісках павінен выставіць сам Народ. Ува ўсіх вокругах адбываюцца цяпер зьезды выбаршчыкаў, арганізованыя Белар. Цэнтр. Аб'ядн. Выб. Кам. Блёку Нац. Меншасьцяў. На гэтых зьездах працоўныя масы вёсак і местаў выставяць кандыдатаў у Сойм і Сэнат, за якіх будуць галасаваць 4-га і 11-га сакавіка. Калі ў 1922 годзе, з выстаўленьнем кандыдатаў ад Беларусаў, былі памылкі, бо некаторыя паслы аказаліся непрацаздольнымі, дык сёлета гэтага ўжо не павінна быць. Змаганьне, якое ў працягу 5-х гадоў вёў Беларускі Пасольскі Клюб, а таксама праца, якую запачаткаваў Беларускі Сялянскі Саюз і „Сялянская Ніва“ настолькі арганізавалі і усьведамілі працоўныя гушчы, што можна сьмела сказаць, што Беларускі Народ выставіць на сваіх сьпісках № 18 найлепшых і найздальнейшых барацьбітоў за правы і інтарэсы працоўнае беднаты і правядзе іх у Сойм.

Так, як лічба 18 большая за 16, дык і другі Беларускі Пасольскі Клюб павінен быць па ліку большым за першы. Гэта ўсім зразумела. За 18-тку будуць галасаць усе тыя выбаршчыкі, што ў 1922 годзе галасавалі за 16-тку; апрача таго, усе тыя працоўныя сялянскія масы, што аддалі, па сваей нясьведамасьці, свае галасы за 3-ку „Вызваленьня“ і 2-ку ППС, будуць таксама галасаваць за 18-тку. Гэтыя партыі за час працы ў Сойме настолькі скомпрамітавалі сябе, а пры гэтым беларуская сьвядамасьць так шмат пашырылася на вёсцы, што няма ніякага сумліву, што ўсе галасы, замест на гэтыя партыі, пойдуць на блёк нацыянальных меншасьцяў.

Вось чаму другі Беларускі Пасольскі Клюб павінен мець шмат больш сяброў, чым-ся было іх у першым Клюбе. Праўда, нашыя ворагі з рожных бакоў імкнуцца да таго, каб разьбіць беларускія галасы і такім чынам паменшыць лічбу будучага парляманцкага прадстаўніцтва ад Беларускага Народу.

На павадку чужынцаў ідуць партыі Паўлюкевіча, Умястоўскага, Янкі Станкевіча і іншых. Прыкрываючыся беларускім назовам, яны імкнуцца адарваць ад сапраўды беларускага сьпіску № 18 галасы менш сьведамых Беларусаў, каб такім чынам выказаць мядзьведзевую ўслугу Беларускаму Народу. Але беларускія працоўныя масы павінны помніць, што толькі ў дружным і аб'яднаным змаганьні за нашыя пакрыўджаныя правы і інтарэсы можам атрымаць перамогу.

Праца, якую вядуць Паўлюкевічы, Янкі Станкевічы і іншыя чмуцiцелі, скіравана проці беларускага аб'яднаньня і проці інтарэсаў Беларускага Народу, ёсьць працай здрадніцкай. Гэтыя асобы і іх часопісі так скампрамітаваны ў вачох беларускіх працоўных гушчаў, што можна быць сьмелым, што яны не правядуць у Сойм ніводнага свайго прадстаўніка і такім чынам аканчальна праваляцца. Але гэтага яшчэ мала. Трэба, каб сярод працоўных вёскі і горада не знайшлося ані воднага голасу, які-б прапаў дарма, калі-б быў аддадзены за сьпіскі кандыдатаў, якія вядуць нягодную і шкодную працу ў беларускім руху. Усе галасы, аддадзеныя не за сьпісак 18, прападуць дарма.

Толькі галасы, што пойдуць на № 18 правядуць у Сойм і Сэнат прадстаўнікоў сярмяжнага Беларускага Народу.

Беларусы, сяляне і работнікі! Помніце, што вашыя кандыдаты толькі на № 18, помніце, што, галасуючы толькі за гэты сьпісак, вы споўняеце свой грамадзкі абавязак і служыце інтарэсам беларускіх працоўных гушчаў.

**Усе на галасаваньне, усе кідайце ў выбарныя скрынкі картачку з лічбай 18!**

## Выбарная фільма.

### Беларусы выставілі толькі адзін сьпісак № 18.

Гэтымі днямі закончыўся час падаваньня ў Галоўную Выбарную Камісію сьпіскаў кандыдатаў. З беларускіх сьпіскаў паданы толькі адзін, сьпісак кандыдатаў Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Гэты сьпісак атрымаў № 18, за які павінны падаць свой голас 4 і 11 сакавіка выбаршчыкі-Беларусы. Так што маем толькі адзін беларускі сьпісак, а гэта сьведчыць аб вялікай сьведамасьці і арганізованнасьці Бел. Народу. Гэта сьведчыць аб поўным банкруцтве конскіх фэльчароў (Паўлюкевіч), акцызьнікаў (Умястоўскі) і навучоных спадароў (Янка Станкевіч), якія, пакінуўшы сваю запраўдную прафэсію, ўзяліся рабіць гора-палітыку.

У сувязі з гэтым паўстае пытаньне: чаму-ж гэтыя гора-палітыкі не падалі сьпіску? Рэч ясная—ня мелі сілы... Каб падаць сьпісак у Галоўную Выбарную Камісію, дык трэба, каб сабраць тысячу подпісаў выбаршчыкаў. І вось гэтага ніхто ня мог зрабіць. Нават і б. Грамада і то не магла сабраць патрэбную колькасьць подпісаў!... Усё гэта сьведчыць, што розныя шкурнікі, якія імкнуліся, у сваіх асабістых паганых мэтах, выкарыстаць беларускіх выбаршчыкаў, дзякуючы нацыянальнай сьведамасьці Беларускага Народу, пацярпелі поўную паражку. Наш Народ ужо зразумеў запраўднасьць і цалком стаў за тых, хто запраўды выяўляе яго жаданьні, гэта—Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт на чале з Беларускім Сялянскім Саюзам.

### Палякевіч і Радзівіл.

У Беластоцкім Выбарным Вокрузе, які ахапляе Беластоцкі, Ваўкавыскі і Сакольскі паветы, старанна разьвівае сваю прадвыбарную працу б. пасол Палякевіч. Гэты Палякевіч, па нацыянальнасьці Паляк, прайшоў у папярэдні Сойм ад польскае партыі „Вызваленьне“. Пасьля ён вышаў з „Вызваленьня“ і далучыўся да нова-паўсталае партыі „Страніцтва Хлопске“. І праз нейкі час быў „хлопам“. Цяпер-жа „Страніцтва Хлопске“ збанкрутавала, дык і Палякевіч апынуўся ў новым палажэньні: ён фігуруе на паньстcovым выбарным сьпіску, які мае № 1.

Ува ўсім гэтым нічога цікавага ня было-б, калі-б разам з Палякевічам, лічачым сябе прадстаўніком сялянства, не знаходзіўся ў лічбе кандыдатаў князь Радзівіл Януш.

Хто-ж гэта такі князь Радзівіл?

— Князь Радзівіл, гэта вялікі абшарнік, ён мае вялікую зямельную ўласнасьць у найбольшым ліку ў Нясьвіскім павеце. Мы ўжо ня раз чыталі ў беларускіх газэтах аб тых зьдзеках, якія дазнае сялянства суседніх вёсак з маёнткамі Радзівіла.

І наагул, няма нічога супольнага паміж сялянствам і абшарнікамі. Гэта—дзьве клясы, якія ўвесь час змагаюцца. Абшарнікі імкнуцца да таго, каб утрымацца на сваім панаючым становішчы, а сялянства імкнецца вызваліцца з-пад панаваньня абшарнікаў. Вось чаму мы асьцярагаем сялянства ўсё наагул, а пераважна Беластоцкага Выбарнага Вокругу ад Палякевіча, які бязумоўна, стоячы разам з абшарнікамі, ня можа зрабіць нічога карыснага для таго, хто пралівае свой працоўны пот на ральлі і задыхаецца ад малазямельля.

### Уліліся ў агульнае мора.

Зусім нядаўна, два віленскія дзеячы, Абрамовіч і Умястоўскі, выступіўшы бяз ніякага на гэта ўпаважненьня, адзін ад імя Палякаў, а другі ад імя Беларусаў, спаткаліся, абняліся і пацаваліся. Гэтым самым яны давяршылі „гістарычны“ акт, нібы-та стварылі партыю беларуска-літоўскіх земляў, каб бараніць гэтыя землі ад варшаўскага цэнтралізму.

Мы тагды адразу зразумелі гэтае, даволі няўдалае, палітычнае шахрайства і паінфармавалі, як трэба, беларускае грамадзянства. Цяпер-жа відзім, што справа абароны беларуска-літоўскіх земляў зусім ня ўходзіла ў мэты Абрамовіча—Умястоўскага... Ім хадзіла аб тое, каб закелзаць працоўныя масы нашых зямель і кінуць іх у аховы таго-ж самага варшаўскага цэнтралізму. Як кажуць, шыла вылезла з мяшка, і вось мы чытаем у „Кур'еры Віленскім“, што Абрамовіч і Умястоўскі далучыліся да сьпіску № 1, які зьяўляецца не якім-колечы, „краёвым“, а агульна-польскім сьпіскам кансэрватыўных колаў. У гэтым сьпіску кандыдатамі зьяўляюцца буйныя абшарнікі з Галіцыі, Мазоўша, і наагул з усяе Польшчы. Вось якая краёвасьць Абрамовіча—Умястоўскага і якая іх — дэмакратычнасьць і радыкалізм!...

Так што сваю шахрайскую краёвасьць гэтыя панкі ўлілі ў буржуазнае мора польскіх зуброў-абшарнікаў.

### Сьпісак № 35.

Перад самым зачыненьнем прыйма дзяржаўных сьпіскаў, 24 студзеня ў Галоўную Выбарную Камісію пададзены яшчэ адзін сьпісак, пазнанскага „Народавага Клюбу Працы“. Сьпісак гэты атрымаў у парадку чаргі № 35.

## За БЛЁК галасы.

Ня лютыя зьверы бягуць чарадою,
Ня гады-вужакі у плоймах паўзуць—
У вёску мужыцку на жыр грамадою
Абшарнікі, шляхта, паны гэта йдуць.
За плахты хоць твары яны пахавалі,
Гучаць-жа даўнейшыя іх галасы,
Якімі салодкія песьні сьпявалі...
Глядзіце-ж, сяляне, ўжо блізка яны!
Вось гэта „Земянін“, абшарнік заможны,
Што працаю давіць сваіх парабкоў.
А гэта—з „Хіены“, пан так-жа [вяльможны,
Ахвотнік сьмяецца з бяды мужыкоў.
А вось і з „Крэсовага Зьвёнзку“ [паночак —
Ідзе па астаткі ад нашай зямлі.
„Пястовец“—пабачце, ўжо новы мяшочак
Пашыў на падаткі ў свае кішані.
Работніцкім потам абмыўшысь крывавым
Вясёлай ступою ідзе „Пэпээс“.
А вунь „Вызваленец“—таму-ж бо цікава,
Ці хутка для „хамаў“ надыдзе канец.
Там з „Партыі Працы“, што бедных [сялянаў
Жадае садзіці за краты ў турму.
І нават „Эндэк“ стаў,—кладзі хоць да [ранаў,
А ціха гатуе галодным труну.
Далей Паўлюкевіч, што „Хаткай“, [„Прасьветай“
І „Словам“ туманіць братоў-мужыкоў.
І з „Днём“ Умястоўскі, буржуем адзеты
За „злотыя“ грошы праз ласку паноў.
А там „Дэмакрат“, „Радыкал“, [„Кансэрватар“,
Мамонька і... ўсіх ня злічыць, [ня зьлічыць —
Ідуць грамадою да „хама“—як брата
Мандацік пасольскі да Сойму здабыць.

— — —

Ганіце-ж, сяляне, сяброў тых мятлою,
Бо гэта абшарнікі, шляхта, паны!
Ганіце-ж іх з вёсак! А ўласнай рукою
На выбарах дайце за БЛЁК галасы.

*Спагадлівы.*

# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

VII.

У заграічных газэтах чытаем вестку ўзятую з бальшавіцкае „Камсамольскае Праўды" і знаходзім там дадзеныя аб рэлігійных сэктах у сучаснай Савецкай Расеі.

З тых дадзеных вынікае, што ў Савецкім царстве ёсьць адзін мільён баптыстаў, адзін мільён эвангельскіх хрысьціян, а таксама істнуюць рожныя іншыя сэкты: малаканаў, хлыстоў, страньнікаў, немалякаў і стараабрадцаў.

Мы ня будзем выясьняць догматаў, канонаў і абрадаў кожнае з гэтых сэктаў, але-ж адзначыўшы, што гэтак сама справа абстаіць і ў нас і на ўсём сьвеце, пяройдзем да тых прычынаў, якія параджаюць і да тых дзейнікаў, якія твораць рэлігійныя сэкты.

Дзеля гэтага ня трэба хадзіць далёка, а найлепш возьмем пад агляд нашага вока праявы сэкцярства на Беларусі. Як ужо ведама, на Беларусі істнуюць дзьве рэлігійныя сэкты: баптысты і мэтадысты. Істнуюць яны і маюць грашовую дапамогу з-за граніцы, пераважна з Амэрыкі. Гэта амэрыканскія цэнтралі баптыстаў і мэтадыстаў высылаюць місыянераў і пастараў, якія вядуць тут свайго роду агітацыю і ўцягаюць некаторых асобаў у свае рэлігійныя сэкты. У мэтах гэтага выдаецца многа літэтаратуры, якая раздаецца бясплатна, ладзяцца курсы, выконваюцца пастарамі рожныя абрады для верных бясплатна і г. д. І гэтым усім, такія агітатары даказваюць запраўднасьць хрысьціянскае рэлігіі, якую нібы выяўляюць пастары тых сэктаў. Але-ж як відзім, дык літэратура з неба ня падае, курсы таксама ня могуць адбывацца бяз траты грошаў, ды пастары абрадуючы бясплатна, пэўна ня жывуць сьвятым духам. На гэта ўсё дае нехта грошы і то — вялікія грошы.

Гэтыя грошы даюць: буржуазія, банкіры ды капіталістыя пераважна — амэрыканскія. Вось гэта тыя дзейнікі, якія твораць рэлігійныя сэкты.

Цяпер пяройдзем да прычынаў, якія параджаюць сэкты і якія змушаюць капіталістых ахвяроўваць частку сваіх грошай на пашырэньне і ўтрыманьне іх.

Але-ж раней чым гаварыць аб гэтым, зірнем на сьвет і пастараемся ўясьніць сабе палажэньне чалавецтва на зямлі. І калі мы зробім гэта, дык прыдзем да перакананьня, што на сьвеце істнуюць дзьве найгалаўнейшыя клясы: нячысьленая кляса багатых людзей, у руках якіх знаходзяцца ўсе матэрыяльныя сродкі, і шматлічбовая маса беднякоў, якія знаходзяцца на ласцы і няласцы магутнае клясы багачоў.

Сучасны сацыяльны лад гэтак пабудаваны, што кожны чалавек, нават і селянін, які працуе на сваей вібы ўласнай гаспадарцы, у запраўднасьці адкладае частку сваей працы на карысьць капіталістых. Да нейкага часу было ціха і пакуль людзі меней разумелі, дык здавалася, што гэтак і трэба, што гэтак і павінна быць. Але-ж, з часам зьявіліся іншыя тэорыі і пагляды на сацыяльнае жыцьцё, а калі так, дык паўстала імкненьне направіць сацыяньную несправядлівасьць. Гэтакая направа мае выявіцца ў тым, што бедната павінна заўладаць над усімі багацьцямі і рэгуляваць эканамічнае жыцьцё гэтак, каб ня было пакрыўджаных. Гэтакі паварот сацыяльнага ўпарадкаваньня адносінаў паміж людзьмі выклікаў барацьбу сярод клясаў. Ясна, што багачы імкнуцца ўтрымаць дасюляшні лад, а бедната хоча стварыць новы.

Барацьба ня мае літасьці, а для таго, каб пабіць праціўніка, усе сродкі і спосабы зьяўляюцца добрымі. І вось мы відзім, што капіталістыя ў мэтах сваей абароны выкарыстоўваюць рэлігію. А дзеля гэтага яны ахвотна падтрымоўваюць гэтакія рэлігійныя сэкты, як баптысты і мэтадысты, бо гэтае вучэньне паралізуе ў чалавеку яго волю і самадзейнасьць, робіць паслушнаю жывёлаю і нават горш гэтага, бо жывёла слухае прымусу, а чалавек, згубіўшы сваю чалавечую волю, выконвае загады іншых проста такі сам.

Вучэньне баптыстаў і мэтадыстаў вымагае ад сваіх прыхільнікаў поўнага выкананьня Божага закону, які не дазваляе браць чужога, але-ж зусім не абавязвае абшарнікаў і капіталістаў у імя любві да чалавека — аддаць усё на агульна-чалавечую карысьць. Вось чаму гэтакія багачы, як амэрыканскія мільярдэры Форд ды Рокфэльлер, ня будучы сябрамі рэлігійных сэктаў, ахвотна памагаюць агітатарам сэктанства на яго пашырэньне.

Акрамя гэтае выгады, рэлігійныя сэкты даюць і іншую карысьць капіталістым. Кожная сэкта мае пашану толькі да сваіх сяброў, а да сяброў іншае сэкты заўсёды адносіцца варожа. А калі так, дык паміма таго, што сэкты забіваюць актыўнасьць у працоўных масах, яны яшчэ разьдзеляюць, распыляюць гэтыя масы на дробныя арганізацыі, якія ўжо ня маюць абсалютна ніякае сілы, каб змагацца з вызыскам і ня маюць моцы, каб абараніцца ад свавольства капіталістых.

Пішучы гэта мы ня маем ніякае агітацыйнае мэты. Мы проста, па абавязку газэты, падалі некаторыя інфармацыі і прытачылі свае пагляды, даючы матэрыял чытачу пад яго развагу.

І яшчэ маем адну вестку, якую таксама тут падаем. Справа ў тым, што чэхаславацкія аружэйныя заводы згатовілі і прадалі кітайскаму Чанг-Тсо-Ліну 40 тысяч ружжаў, якія ўжо адпраўлены ў Кітай. Хто такі Чанг-Тсо-Лін, шмат каму ўжо ведама!... Але-ж дзеля таго, што пэўна ёсьць і такія, якія ня ведаюць аб ім, мы пастараемся выясьніць. Дык вось!... Чанг-Тсо-Лін, гэта — кітайскі гэнэрал, які опраўляе дыктатарства над паўночнаю часткаю Кітаю. Ён бязумоўна буржуазнае ідэалёгіі і манархістычных паглядаў, дзякуючы падтрыманьню Японіі, вядзе аружную барацьбу з радыкальнымі кітайскімі групамі. А гэта ўжо як ведама, ідзе не на карысьць працоўнага чалавека. І вось, вышла так, што чэхаславацкія работнікі зьяўляюцца наймітамі Чанг-Тсо-Ліна, бо згатовілі 40 тысяч ружжаў, якімі Чанг-Тсо-Лін будзе біць кітайскіх работнікаў. Што-ж гэта можа значыць?

На наш пагляд чэхаславацкія работнікі не вінаваты. Яны, бязумоўна, у сваіх перакананьнях проці гэтага, аднак-жа прычыніліся да таго, што зьяўляюцца памоцнікамі Чанг-Тсо-Ліна, які змагаецца з работнікамі. А чаму? Ды толькі таму, што, дзякуючы ненармальнаму ладу, які пануе на сьвеце, яны зрабіць іначай не маглі.

У Чэхаславакіі, як і ў іншых дзяржавах — безрабоціца. А калі так, дык работнікі дзеля кавалка хлеба выконваюць тую работу, якая дае ім гэты хлеб. Выходзіць, што работнікі (на першы пагляд), маглі і не працаваць над ізгатоўкаю ружжаў, аднак-жа павінны былі, бо сацыяльнае палажэньне прымусіла іх.

Характэрна тут і тое, што нават чэхаславацкія камуністыя не пратэставалі проці гэтага!

Дык вось якія справы твараца на сьвеце! Вось якія бачылі праявы і зьявы.

**Зыркі.**

# З жыцьця Польшчы.

### Шаленства абшарнікаў.

Пад гэтакім назовам „Robotnik" № 25 (3222) з дня 25га студзеня зьмяшчае артыкул Я. Квапінскага, старшыні завадовага зьвёнаку землябробскіх работнікаў.

Ніжэй падаём некаторыя выпіскі з гэтага артыкулу:

„Палітыка прыхіляць абшарнікаў да г. зв. „Беспартыйных Камітэтаў Супрацоўніцтва з Урадам", пахлебстваваць Радзівілам, Стэцкім, не замарудзіла ўжо даць вынікі.

На першага студзеня „rozpanoszone ziemiaństwo", чуючы сваю бяскарнасьць і патачку ўраду, пачало гаспадарыць па польскай вёсцы; аграмадныя масы выдаленых парабкоў пасярод слаты і сьцюжы ходзяць ад фальварку да фальварку і шукаюць працы.

Аддзелы саюзу землябробскіх работнікаў засыпаюць галоўны ўрад весткамі аб масавых звальненьнях парабкоў. Ёсьць паветы, як напр. Влоцлавак, дзе звольненых дасягае 90 проц. усіх працаўнікоў у павеце; у паветах Кутноўскім і Гастынінскім—500 сем'яў, у паветах Бродніца, Вонжэжно і Дзялдово—850 сем'яў. На Валыні помста абшарнікаў за належнасьць да саюзу—роўна барбарству, бо-ж у паветах Валынскага ваяводзтва выкінута 900 сем'яў. У Заходняй Малапольшчы, дзе гуляюць кракоўскія кансэрватыстыя, выдалена каля 1000 сем'яў, у паветах Кангрэсоўкі лік выдаленых дасягае да 9000 сем'яў, у Пазнані і на Памор'і не лепей, лік выдаленых і там вельмі вялікі...

Мы цікавы, як гэта ўрад „маральнай санацыі" будзе шчасьціць гэтых бедакоў, якія абшарнікамі пазбаўлены працы... каб у надыходзячым парцэляцыйным годзе не дапусьціць іх да зямлі. Мы цікавы, ці па гэтых фактах найдуцца людзі, якія-б сяньня мелі адвагу рабіць націск на парабкоў і малазямельных, каб яны галасавалі за сьпісак „Bezpartyjnego Komitetu Współpracy z Rządem", з прозьвішчамі... абшарнікаў, каторыя ў Незалежнай Польшчы насьмехаюцца з людзей працы, больш, каторыя зьдзекуюцца над тымі, хто жывіць цэлы край сваёю цяжкаю працаю.

Пішу пад уражэньнем той агіды, якую тасуюць абшарнікі да парабкоў і робяць гэтае ў мамэнце, калі адпаведная колькасьць гэтых паноў яшчэ не ўвайшла ў Сойм. А што-ж будзе, Пане Прэм'ер, калі пад лёзунгам Вашага прозьвішча ўваляцца ў Сойм у болшай колькасьці?"...

„Сяньня ў абароне масаў, якіх сталецьцямі панявералі, якіх ня мелі за людзей, я прымушаны пісаць поўныя горычы словы, але адначасна хачу кінуць словы перасьцярогі для ўраду, каторы ў нейкім дзіўным засьляпленьні дазваляе на абшарніцкія гарцоўкі..."

### Польскі „Голас Праўды" творыць новы народ.

Польская варшаўская газэта „Голас Праўды", абгаворваючы прадвыбарнае палажэньне палітычных групіровак на Палесьсю, вось як заапекавалася жыхарствам.

„Ня робім мы (гэтак піша „Голас Праўды") з Паляшукоў—Палякоў, але-ж і не пазволім рабіць з іх Украінцаў ці Беларусаў".

А калі так, дык знача!... „Голас Праўды" творыць новую нацыю. І пэўне-ж, не дзеля чаго іншага, а толькі, каб дзяліць нацыянальныя меншасьці.

Вось гэта з боку нацыянальнага!... З боку-ж сацыяльнага знаходзім таксама вельмі цікавы вывад. Гаворачы аб камунізьме „Г. П." піша:

„І трэба таксама памятаць, што камунізм на Палесьсі зьяўляецца вынікам праўдзівага незадаваленьня з прыкрага гаспадарчага палажэньня".

Але-ж ці падумаў „Голас Праўды" аб адхіленьні тых прыкрасьцяў?

### 250 000 зл. кінута ў балота.

Гэтак піша „Dziennik Wileński" № 19, дзе чытаем:

Санацыя прырыхтавала для мэтаў прапаганды фільму п. н. „Камандант"; фільма каштавала 250 тысячаў злотых. У суботу адбываўся паказ гэтай фільмы перад асобнаю палітычнаю камісіяю на чале з ген. Рожанам. Камісія пастанавіла, што фільма не адпавядае мэце, зусім ня ўзбуджае энтузыязму, а скарэй можа выклікаць супраціўнае пачуцьцё. Дзеля гэтага фільма дыкваліфікавана (забракавана).

### Дождж ордэнаў.

У заметцы, пад гэтакім назовам „Dziennik Wileński" № 20 піша:

„Kurjer Polski" зьвяртае ўвагу, што ў кожным нумары „Monitora Polskiego" знаходзіцца працяг сьпіску асобаў, аздобленых крыжамі заслугі. Гэта пераважна ніжэйшыя ўрадоўцы, работнікі, рамесьнікі і сяляне. Гэта ёсьць выбарны манэўр, каб як-найбольш згуртаваць людзей для ўрадавага блёку.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— На варшаўскай мэталёвай фабрыцы „Вулькан" выбухла граната, апчэпкамі якой цяжка ранена 13 работнікаў.

— 23 студзеня ў Львове арыштавана некалькі дзесяткаў „камуністых".

— На Кінопіскіх шахтах, каля Чэнстаховы, забаставала 1500 гарнякоў. Прычына—нявыплата зарабаткаў за апошнія два тыдні.

# Куток рытмаў.

### РАЗВАЖАНЬНІ.

Нейкая сіла таёмная
Сэрца маё ўсё гняце,
Нейкая хмарына чорная
З думак маіх устае.
Цені усё спатыкаюцца,
Вокам куды ня зірну,
Дзіўна яны там ківаюцца:
Страхамі поўняць душу.
Нейкія зыкі шыпучыя,
Быццам, вужакаў чуваць,
Кратаюць струны балючыя,
Што анямелі і маўчаць...
Круцяцца думкі шалёныя,
Круцяцца шалам віхроў,
Нейкія хмарыны цёмныя
Лётаюць роям клубкоў —
Ценьню пакрылі касматаю
Волю і шчасьце людзём,
Долю народу багатую,
Роўнасьць і брацтва ўва ўсём.

*Улад-Іпіцкі.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Выбух вялікага вулькану.

Найвялікшы на сьвеце вулькан Кракатоа (жарало яго мае ў вакружнасьці 10 кілёмэтраў), які ляжыць на выспе Суматра, на мінулым тыдні пачаў выкідаць лавіцу. Выбух яго пачынае набіраць пагражаючых разьмераў.

Галяндзкая адміністрацыя (выспа Суматра — калёнія Галяндыі) выдала загад акалічнаму жыхарству пакінуць свае сядзібы. Спадзяюцца, што лавіца вулькану разальлецца па вялікаму абшару. Жарало вулькану ад 1863 году было ўвесь час ніжэй паверхні мора; цяпер-жа ўвыніку падземных устрасаў, яно паступова паднімаецца і стаіць ужо вышэй паверхні мора. Масы лавіцы, якую выкідае цяпер вулькан, у прыбережнай аколіцы дасягаюць да вышыні 130 мэтраў над паверхняю мора.

### Апарат, які запісвае размову па тэлефону.

Швэдзкі вынаходца Лярсон збудаваў апарат, які сам-сабою (аўтаматычна) запісвае тэлефанаграмы і можа паўтараць усе размовы, што перадаваліся па тэлефону ў адсутнасьці абанэнта. Вярнуўшыся да апарату, абанэнт, націснуўшы кнопку і ўзяўшы трубку, можа пачуць усе тыя размовы, якія вяліся ў часе яго адсутнасьці.

### Забастоўкі.

На чугункавых варстатах у м. Лілюч (Індыя) выбухла вялікая забастоўка работнікаў з-за эканамічных прычынаў. Бастуе каля 10 тысячаў работнікаў.

У Швэцыі забаставалі гарнякі трох вялікіх горных акругаў. У шахтах пануе поўная цішыня.

У Нямеччыне 24 студзеня аб'яўлена забастоўка 50.000 работнікаў мэталёвае прамысловасьці.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— 25 студзеня парыская паліцыя арыштавала і заключыла ў вастрог вядомага камуністычнага пасла Марці.

— Матросы Злуч. Штатаў захапілі галоўную кватэру павадыра нікарагуанскіх паўстанцаў, гэн. Сандзіно. Кватэра знаходзілася на гары і была збамбардавана амэрыканскімі самалётамі 16 студзеня.

— Некаторыя французскія газэты падалі вестку, быццам, за межы Францыі высланы князь Юсупаў, вядомы забойца Распуціна.

— Рымскі Папа нядаўна атрымаў ад ураду СССР з Масквы прысуд на кару сьмерці.

Гэты, вельмі строгі прысуд, паводле матываў „савецкіх судзьдзяў", вынесены за тое, што Папа падтрымлівае шляхам фінансаваньня проці-бальшавіцкі рух.

— На капальні Ляс-Колёндрынас (Калюмбія) вынікам абвалу ў шхце засыпана зямлёю болей 100 гарнякоў.

— З Нью-Ёрка паведамляюць, што ў некалькіх местах Мэксыканскае рэспублікі выбухлі аружныя паўстаньні. Урад выслаў сільныя вайсковыя атрады ў горы, дзе хаваюцца паўстанцы.

— 19 студзеня сербская каралева парадзіла сына. Па поваду гэтай „радаснай падзеі", Белградзкая крэпасьць дала 101 стрэл з гарматаў.

— Паміж ангельскім і галяндзкім урадамі вынік спор за выспы на Паўдзённым Ледавітым акіяне. Галяндзкі ўрад цьвердзіць, што на гэтых выспах яе экспэдыцыя першаю паставіла галяндзкі сьцяг. Ангельскі-ж ўрад гэтага ня прызнае і на картах адзначае гэтыя выспы, як сваю ўласнасьць.

— Францускі парлямант прыняў новы ваенны закон, згодна якога лік навабранцаў павялічваецца да 106.000 (было 60.000). Прызыўны ўзрост устанаўліваецца ў 21 год (было 22 гады). Ваенная служба скарочваецца да 1 году. Закон гэты, аднака, уваходзіць у сілу толькі ў 1930 годзе.

— У Вэнгрыі выкрыта камуністычная арганізацыя з цэнтрам у Будапэшце. Арыштавана 22 чалавекі ў самай сталіцы, але арышты ідуць і ў 17 правінцыяльных местах.

— За апошнія два тыдні ў ССРР арыштавана каля 500 „спэкулянтаў" хлебам.

— Эгіпецкаму габінэту Сарват-Пашы нацыяналісты выразілі недавер за заключэньне дагавору з Англіяй. Габінэт пашоў у адстаўку.

— Распараджэньнем работніцка-сялянскай інспэкцыі ў Іркуцкай губэрніі (Сібір), аддаюцца пад суд 25.000 сялянаў за адмову плаціць падаткі і налогі.

